Просто хорошая газета

Откушина

12+

№10 (809) 4 марта 2020 года

Выходит один раз в неделю   Основана 18 окт… …та Слонимская»   ГАЗЕТА РЕКЛАМНАЯ ДЛЯ ДОСУГА

СЛОНИМ. НАШИ ЛЮДИ

# Прапорщика Николая Точёного считали без вести пропавшим в Афганской войне, а он выжил

**Через кровавую Афганскую войну прошли более 620 тысяч советских военнослужащих, из них 32 тысячи белорусов.**



Прапорщик Николай Точёный с котом Василием

> «Все были одинаковые, что офицер, что солдат, все были одним целым. Там держались один за одного, иначе не выживешь. Мы все вместе спали и ели из одного котелка.

Среди тех, кто исполнял свой интернациональный долг в Афганистане, был и житель Слонима Николай Точёный. Николаю довелось служить в Афганистане в должности прапорщика два года. В 1982 году его призвали в Афганистан исполнять свой долг перед Родиной. О том, как прапорщик Точёный попал служить в Афганистан, почему его считали пропавшим без вести, он рассказал корреспонденту при встрече в редакции.

— Я служил в Слониме в одной из воинских частей. О том, что буду нести службу в Афганистане, узнал в 1982 году. Это была пятница, у нас были политзанятия, к нам зашли командир, начальник штаба, кадровик и сказали, чтобы пять человек остались, назвали фамилии, а остальным предложили выйти. Сказали, что надо пройти медицинский осмотр. Утром прошли медкомиссию, а ночью уехали в Афганистан. В то время мне было 28 лет, я был женат, дочери было 2,5 года.

**— Наверное, супруга была расстроена?**

— Конечно.

**— А Вы сами?**

— Я был уже привычен к этому: три года отслужил на флоте, был опыт службы в Африке, поэтому адаптация к климату проходила хорошо. Да и потом, мне квартиру предложили в новом доме, почему бы не поехать в Афганистан.

**— Какое было первое впечатление о службе в Афганистане, страшно было?**

— А кому было не страшно? Первое время всегда страшно, а потом привыкаешь. В городе Шинданде, где стояла наша дивизия, много наших было, встречались военнослужащие даже из Слонима. Из Гродненской области тогда прислали 28 прапорщиков. Изначально нас привезли в Кабул, а потом уже распределяли по городам.

**— Николай Антонович, были ли случаи дедовщины в то время в Афганистане?**

— Какая дедовщина, там все были одинаковые, что офицер, что солдат, все были одним целым. Там держались один за одного, иначе не выживешь. Мы все вместе спали и ели из одного котелка. Не дай бог тебя ранят, потом сослуживец тебя не прикроет, не поможет.

**— Жили в палатках?**

— Да, жили в палатке и в землянке, а в 1983 году начали строить уже сборно-щитовые домики.

**— Убивать афганцев приходилось?**

— Кто его знает. Они стреляли, мы отстреливались, бывали засады. Я 13 раз сопровождал колонны с грузом. Первый раз, когда шел с колонной, было непривычно, надевал бронежилет, каску на голову.

**— Как Вы считаете, надо ли было отправлять на гибель наших военных, участвовать в военном конфликте?**

— Это не мы решали: был приказ, который мы обязаны были выполнять. Такая была политика государства.

**— Часто вспоминаете о службе в Афганистане?**

— Часто после возвращения снились душманы, дорога, перестрелка...

**— Случались ли за время службы какие-то курьезные ситуации?**

— Да какие там ситуации, все как у всех. Все на войне были одинаковые, что солдат, что генерал, это правда. Там все занимались своими делами, там людей без дела не было.

**— Николай Антонович, это правда, что родные Вас похоронили, не дождавшись весточки?**

— Было, было такое. Меня ранили, плечо и рука были раздроблены, писать не мог. Меня отправили в госпиталь сначала в Ташкент, потом в Омск, документов не было. Жена переживала, делала запрос, не могли найти, куда направили. Потом из госпиталя после лечения опять направили в Афганистан, где я продолжил нести службу. А затем вернулся в Беларусь. Помню, как на такси за 5 рублей приехал в Слоним, где опять продолжил служить в воинской части. Через полтора года меня перевели служить в Германию.

В 39 лет ушел на пенсию и продолжаю работать. Мне уже 67 лет, 28 лет уже отработал на гражданке. Моя радость — это внуки. Внук Миша говорит, что дедушка — его лучший друг.

**Анна ВОЛОДАЩУК**
**anna@gs.by**

# Пазнай сябе на фота

**Паважаныя чытачы! Пазнавайце на старых фотаздымках сябе, сваіх знаёмых і блізкіх і тэлефануйце нам: 8 (01562) 29-999, 8 (029) 133-04-21 у працоўныя дні з 9:30 да 17:30. Найбольш цікавыя расповеды пра герояў здымкаў будуць надрукаваны ў газеце, а іх аўтары атрымаюць запрашальныя квіткі на спектаклі Слонімскага драматычнага тэатра.**


На рынку ў Слоніме

На фотаздымак фатографа, надрукаваны ў мінулым нумары «Аддушыны», ніхто з нашых чытачоў не адгукнуўся.

Калі ўсё ж нехта пазнае майстра, чакаем вашых расповедаў пра яго яшчэ і на гэтым тыдні.

**Мікола КАНАНОВІЧ**
ФОТА З АРХІВА «ГС»

КРАЯЗНАЎСТВА

# Цікавы юбілей

**150 гадоў для планеты Зямля — толькі міг. Для чалавека жыццё прыкладна шасці-сямі пакаленняў, і лічба даволі прыгожая і значная.**

## З гісторыі далёкай і блізкай

Менавіта 150 гадоў прайшло з таго часу, калі ў вёсцы Валеўка Навагрудскага раёна напрыканцы 1869 года адчыніліся дзверы царкоўна-прыхадской двухгадовай школы. 30 сялянскіх дзяцей, пераважна хлопчыкі, атрымалі магчымасць навучыцца чытаць, пісаць, лічыць.

На Навагрудчыне гэта была другая пасля створанай значна раней падобнай школы магнатамі Храптовічамі ў Шчорсах. Навучанне ў той час вялося выключна на рускай мове. Школа ў Валеўцы прыпыняла сваю дзейнасць толькі падчас Першай сусветнай вайны, а ў 20-х гадах мінулага стагоддзя яна набыла статус сямігодкі і перайшла на польскую мову навучання

З восені 1939 года і да сённяшняга дня мова навучання ў гэтай школе — беларуская. У 1951 годзе школа становіцца дзесяцігодкай і ў Валеўцы пачынаецца будоўля двухпавярховага тыпавога будынка, светлыя і прасторныя класы якога ўжо ў верасні 1952 года прынялі звыш 400 вучняў.

Менавіта ў гэты перыяд педкалектыў школы папаўняецца новымі таленавітымі настаўнікамі, пераважна мужчынамі, і не толькі з вышэйшай адукацыяй, але і з вопытам удзелу ў баталіях Вялікай Айчыннай вайны. Яшчэ на нязгаслай хвалі радасці ад перамогі ў іх захавалася прага да новага, лепшага жыцця, творцамі якога ім і давялося стаць па волі лёсу. Яны не лічыліся з асабістым часам, аддаваліся цалкам працы на карысць школы на ўроках і пасля іх, шырока выкарыстоўвалі новыя нестандартныя метады і формы навучання і пазакласнай працы. Асаблівая ўвага надавалася краязнаўча-пошукавай працы.

Не звяртаючы ўвагі на адсутнасць на першых парах адмысловага турысцкага рыштунку, кожны клас, згодна з распрацаваным загадзя планам, на працягу навучальнага года здзяйсняў па некалькі экскурсій, пешых ці веласіпедных.

Пра ўсё, што ўдавалася знайсці, даведацца падчас такіх вандровак, прыгожа афармлялася і захоўвалася спачатку ў піянерскім пакоі, а ў 1955 годзе было перададзена ў школьны краязнаўчы музей. Гэта быў першы ў Беларусі музей, створаны ў вясковай школе. У той перыяд турысцкія атрады школы становяцца пастаяннымі ўдзельнікамі і нярэдка пераможцамі абласных і рэспубліканскіх турзлётаў школьнікаў.

## Школьнае лясніцтва і парк-дэндрарый

У канцы 50-х гадоў мінулага стагоддзя на тэрыторыі школы ствараецца парк-дэндрарый, арганізоўваецца школьнае лясніцтва, усталёўваецца традыцыя правядзення штогод вясной свята птушак з развешваннем 100-150 сінічнікаў, шпакоўняў, дуплянак на тэрыторыі школы, вёскі і на возеры Свіцязь, вынікова працуе школьная вытворчая брыгада з летнікамі працы і адпачынку (Валеўская СШ трапіла ў лік чатырох школ вобласці пад эксперымент пераходу на 11-гадовую праграму навучання, і ўжо ў 1962 годзе быў першы выпуск 11-класнікаў), закладаецца практыка правядзення школьных турзлётаў на возеры Свіцязь, а таксама шматлікіх іншых цікавых мерапрыемстваў.

ПРАЦЯГ НА С. 7 «АДДУШЫНЫ»

ФУТБОЛ

# У ФК «Слонім 2017» з`явяцца новыя футбалісты

**На тыдні футбольны клуб «Слонім 2017» падпісаў кантракты з новымі гульцамі. З новага сезону тут будуць гуляць новыя абаронцы, паўабаронцы і брамнікі, пра гэта паведамілі ў прэс-службе клуба.**

Новым паўабаронцам клуба стане Сяргей Кашэль 1986 года нараджэння. Ён выхаванец ДЮСШ №5 горада Бабруйска і «Дынама» Мінск, мае даволі багаты вопыт. У свой час ён выступаў за «Дынама-Юні», «Змену», МТЗ-РІПА, «Дзіжвангі» (Латвія), «Белшыну», ФК «Мінск», «Рудзенск», «Мінск-2», «Крумкачы», «Славію-Мазыр». У мінулым сезоне футбаліст гуляў за НФК, дзе ў 24 матчах закінуў 4 мячы.

Абаронца Арцём Кільіманаў будзе выступаць за слонімскі футбольны клуб на правах арэнды. У мінулым сезоне ён гуляў за ФК «Баранавічы». Трансферны кантракт, які падпісалі бакі, прадугледжвае часовы пераход гульца ў склад слонімскага футбольнага клуба. Арцём Кільіманаў 1998 года нараджэння. Раней з баранавіцкай каманды ў ФК «Слонім 2017» перайшлі паўабаронца Данііл Сілінскі і абаронца Артур Чудук.

— З футбольнага клуба «Баранавічы» ўзяты адны з лепшых гульцоў. Па тэхнічнай падрыхтоўцы, працаздольнасці і характары да іх няма нараканняў — яны павінны дапамагчы нашай камандзе. Артур Чудук быў капітанам ФК «Баранавічы», выводзіў з капітанскай павязкай нашу каманду ў таварыскім матчы з «Лідай», — сказалі ў прэс-службе.

Брамнікам ФК «Слонім 2017» стане Андрэй Напорка 1994 года нараджэння. Андрэй — выхаванец ФК «Мінск», выступаў за «Прамень», футбольныя клубы «Клецк» і «Узда».

У лютым у слонімскую каманду ўвайшлі футбалісты з ФК «Нёман» Гродна брамнік Максім Шышлоў і з ФК «Смаргонь» абаронца Аляксей Лазко.

**Максім СУДЗІЛОЎСКІ**




# ФК «СЛОНИМ 2017» ПОБЕДИЛ ФК «ИВАЦЕВИЧИ»

**В субботу, 29 февраля, на стадионе Слонимского УМГ ФК «Слоним 2017» в товарищеском матче был сильнее ФК «Ивацевичи».**


Игра была интересной

**Слоним 2017 — Ивацевичи — 2:0 (1:0)**

**ФК «Слоним 2017»:** Напорко (Шишлов, 46), Чудук (Ровбут, 32), Лозко (Козлов, 73), Кильиманов (Чудук, 38 (Кильиманов, 67)), Казаков (Баль, 57), Орлов (Казаков, 73), Силинский (Чернодаров, 77), Гузов (Курышев, 46), Влад. Берг (Герасимчик, 70), Корзун (Вил. Берг, 70), Кошель (Спасюк, 57).

**Голы:** Гузов (27), Чудук (47).

В начале матча один из болельщиков сказал, что на поле из прошлогоднего состава остался лишь один Влад Берг, команда полностью изменилась.

И это правда. Хотя во втором тайме всё-таки вышли на замену проверенные слонимские футболисты.

Идёт становление команды и проверка новичков, в первую очередь оборонительных рядов. Поэтому Артём Кильиманов и Владислав Казаков сначала были заменены, а потом вновь возвратились на футбольное поле.

У нас два новых вратаря. В игре с ФК «Ивацевичи» они оставили свои ворота в неприкосновенности.

На просмотре находятся российские футболисты (некоторые уже покинули Слоним). Один из них — Сергей Гузов — на 27-й минуте сумел отличиться голом со штрафного.

Ещё один мяч в ворота соперника послал Артур Чудук, который в прошлом году был капитаном ФК «Барановичи». В этом году он во встрече с «Ивацевичами» и до этого в игре с «Лидой» был капитаном слонимской команды.

В матче с ФК «Ивацевичи» выступал за нашу команду недавно подписавший контракт с ФК «Слоним» Максим Ровбут (1996 г.р.). Максим — воспитанник СДЮШОР «Динамо» Минск. В прошлом сезоне за НФК он провёл четыре матча за основу, а в семи выходил на замену.

7 марта в 13:00 на стадионе Слонимского УМГ состоится товарищеская встреча с ФК «Лида».

**Сергей БУЗУН**
ФОТО АВТОРА

РАЗМОВА

# ІГАР ШАЎЧЭНКА:
# «У нас ёсць дзеці, здольныя стаяць на каньках, але гэтага мала»

**З 26 да 28 лютага ў Лідзе праходзілі фінальныя спаборніцтвы Гродзенскай вобласці сярод дзяцей і падлеткаў па хакеі «Залатая шайба». Слонімцаў там не было.**


ФОТА АЎТАРА
Ігар Шаўчэнка

Дзевяць каманд у малодшай узроставай групе 2006-2008 гадоў нараджэння змагаліся за права трапіць на рэспубліканскі этап турніру. Іх аб`ядноўвала тое, што ўсе каманды былі з раённых цэнтраў, у якіх няма крытых фізкультурна-спартыўных збудаванняў са штучным лёдам. Першае месца ў спаборніцтвах заваявалі хакеісты з Дзятлаўскага раёна. У кроку ад п`едэстала засталіся хакеісты з Навагрудскага раёна.

Дзятлаўскі і Навагрудскі раёны па насельніцтве значна меншыя за Слонімскі раён. Аднак яны змаглі не толькі выставіць свае каманды на спаборніцтвы, але і пазмагацца за медалі. Каманды са Слонімскага раёна на турніры не было. Мы пацікавіліся ў абаронцы слонімскай каманды па хакеі Ігара Шаўчэнкі наконт таго, як развіваецца хакей у Слоніме і ці ёсць для гэтага ў нашым горадзе ўмовы.

**— Ігар, скажыце, які ўзрост нашых хакеістаў? Яны маглі б удзельнічаць у такіх спаборніцтвах? У нас ёсць чалавечыя рэсурсы для гэтага?**

— Сярэдні ўзрост нашых хакеістаў прыкладна 40 гадоў, і ў такіх мерапрыемствах, вядома, удзельнічаць мы не можам. Вышэйназванае мерапрыемства праходзіць сярод дзіцячых дваровых каманд, а арганізоўвае яго звычайна райвыканкам, а больш дакладна, аддзел спорту і турызму. У нас няма дзіцячых каманд, якія ўмеюць гуляць у хакей. Вядома, у нас ёсць дзеці, якія здольныя стаяць на каньках, але гэтага мала. Да таго ж у нас зусім адсутнічае хакейная інфраструктура — няма месца, дзе можна было б трэніравацца дзецям. Мы, дарослыя, гуляем на Салдацкім возеры, калі ёсць магчымасць, але дзяцей на возеры трэніраваць няма магчымасці.

**— Добра, а сярод вас праводзяцца такія спаборніцтвы?**

— Так, сярод аматараў увесь час праводзяцца спаборніцтвы ў так званай «Начной хакейнай лізе». У мінулым сезоне наша каманда «Леон» удзельнічала ў гэтай лізе. Сёлета па шэрагу прычын не падавалі заяўку на ўдзел у ёй. Чаму? На гэта пытанне ў мяне няма дакладнага адказу, толькі з другіх рук. На гэтае пытанне вычарпальна можа адказаць толькі капітан каманды, які заяўляе каманду на гульню. Капітанам нашай каманды з`яўляецца Уладзімір Лазар.

**— Не небяспечна трэніравацца на возеры? Сёлета лёду не было, выходзіць, і трэніровак не было?**

— Што да трэніровак, іх было ўсяго некалькі — калі прымарожвала. А пакуль мы на сваім транспарце два разы на тыдзень ездзім у Івацэвічы на арэну. Але гэта прычыняе складанасці.

**— Хуткім часам прадбачацца нейкія спаборніцтвы? Яны праходзяць толькі ўзімку?**

— У нашым выпадку ў бліжэйшы час удзельнічаць у спаборніцтвах не атрымаецца. Чэмпіянат сярод аматараў хакею ідзе поўным ходам. Тыя каманды, якія падалі заяўкі на гэты сезон, падыходзяць да завяршальнага этапу чэмпіянату. Так, спаборніцтвы праходзяць пераважна ўзімку, бо ўлетку ў большасці лёдавых арэн лёд растопліваюць.

**— Увосень вы збіралі подпісы за будаўніцтва хакейнай пляцоўкі. Распавядзіце, як прасунулася рашэнне пытання, з якім вы звярталіся да ўлады?**

— Мы былі на прыёме ў старшыні райвыканкама, ён запэўніў нас на 100%, што ў 2020 годзе хакейная каробка будзе здадзена ў эксплуатацыю. Я чалавек слова, калі кажу, то раблю. Адпаведна гэтак жа ўспрымаю і тых, хто мяне акружае. Калі кіраўнік такога рангу дае слова, гэта ўжо справа гонару. Акрамя таго, грошы выдзелены абласным бюджэтам, цалкам гатовая дакументацыя і адведзена зямля. Думаю, што гэтым разам каробка ў Слоніме будзе. Я ўпэўнены, што ў 2020 годзе ў Слоніме здадуць хакейную каробку, дзе з`явіцца магчымасць трэніраваць дзяцей. Тады мы зможам, гэтак жа як і Дзятлава, Шчучын і іншыя гарады, удзельнічаць у «Залатой шайбе» і перамагаць.

**Максім СУДЗІЛОЎСКІ**

# В Слониме открыли первый «жесткий» дискаунтер «Грошык»

## ЦЕНЫ ПОРАДОВАЛИ КАЖДОГО ПОКУПАТЕЛЯ

**25 февраля в Слониме распахнул свои двери для покупателей магазин «Грошык», который находится на улице Брестской, 42А. Управляющая компания «Грошыка» — ООО «Клондайк Ритейл», это дочернее предприятие «Евроторга». Новый бренд в сети «жестких» дискаунтеров первым пришел на слонимский рынок. Он будет конкурировать с российским «Светофором» и «Доброценами».**




Магазин «Грошык»



Открытие началось с разрезания традиционной красной ленты

Необходимо отметить, что в день открытия магазина пришло огромное количество покупателей, которые стремительно опустошали прилавки магазина. И это не удивительно, ведь покупателей цены совсем не смущали: они были настолько низкие, что люди не раздумывая наполняли продуктами свои тележки. Например, килограмм бананов и мандаринов на открытии стоили по 1,99 рубля. Нарасхват шла скумбрия по 4,49 рубля за килограмм. Растворимый кофе «Нескафе» стоит 11,55 за 500 граммов, «Нескафе Голд» — 7,79 за 190 граммов, а чай «Липтон» — 4,49 за упаковку со 100 пакетиками.

Шоколадные конфеты — дешевле 4 рублей за килограмм, а стандартная плитка шоколада «Спартак» — 0,99. Среди бакалеи также можно найти 900-граммовую пачку макарон за 0,79 и упаковку риса за 0,95. Литр сока обойдется в 0,99, а пачка известного майонеза «Камако» — в 1,49 за 400 граммов и многое другое.

Слонимский дискаунтер занимает 1600 квадратов. Вместе с бакалеей и напитками в «Грошыке» присутствуют молочные и мясные товары. Представлен огромный ассортимент замороженной рыбы по приемлемой цене: килограмм хека стоит 4,99.

Еще одно отличие от других «жестких» дискаунтеров — наличие зоны фруктов и овощей, которые своими низкими ценами радовали покупателей. Например, килограмм яблок можно купить всего за 1,69 руб.

В отличие от конкурентов, ставка сделана не только на низкие цены, но и на качество товаров — прежде всего, белорусского производства.

На открытии было оживленно — собралось около тысячи человек.

Руководитель пресс-службы компании «Евроторг» Егор Хрусталев раскрыл идею создания новой сети дискаунтеров: «Компания и формат магазина новые, к тому же мы открывались оперативно. Видели, что писали СМИ, поэтому решили пояснить, что «Грошык» — дочерняя структура «Евроторга», которая будет работать в сегменте «жесткого» дискаунтера. Трудиться над этим проектом будет отдельная команда.

Формат похож на недавно открывшиеся в Беларуси «Светофор» и «Доброцен». Можно сказать, что это наша, белорусская, им альтернатива. В сети дискаунтеров «Грошык» будут представлены товары по низким ценам. Значительно дешевле, чем даже в магазинах «Хит!».

Как удалось этого достичь? За счет минимизации издержек. В первую очередь минимизированы затраты на логистику, так как товар поставляется кратно паллетоместам. Также снижены трудозатраты персонала, поскольку покупатели будут брать товар непосредственно с паллет. А за счет большой торговой площади объекта уменьшаются и операционные издержки. И если наши дискаунтеры «Хит!» это преимущественно небольшие торговые объекты в формате «у дома», то дискаунтеры «Грошык» — это более крупный формат, который прекрасно подходит для больших покупок всей семьей. Ждем покупателей, которые экономно подходят к своему бюджету, а также предпринимателей, которые найдут в дискаунтерах «Грошык» товары по ценам дешевле, чем им доставляют в их торговые точки другие поставщики, а значит, смогут увеличить свою конкурентоспособность».

На первом этапе ритейлер будет развиваться в регионах. Так, планируется охватить города с населением около 50 тысяч человек. После этого «Грошык» может прийти в Минск и областные центры. Слоним выбран местом пилотного запуска.

Формат дискаунтера сейчас очень популярен не только в соседних странах, но и в Европе. За счет внутренней экономии товары здесь заметно дешевле, чем в привычном ритейле. Цены на продукты — одни из самых низких в стране.

«Жесткий» дискаунтер «Грошык» на улице Брестской, 42А будет работать с 9 до 21 часов. Покупателей здесь обслуживают 5 касс.

**Анна ВОЛОДАЩУК**
anna@gs.by
ФОТО АВТОРА

### ПОСЛЕ УДАЧНОГО ШОПИНГА ПОКУПАТЕЛИ ПОДЕЛИЛИСЬ СВОИМ МНЕНИЕМ О МАГАЗИНЕ И ЦЕНАХ.

**Иван Иванович:**



— Мне магазин очень понравился. Я сюда пришел за рыбой и купил целую корзину: хек, горбушу и мандарины. Не знаю, как дальше будет, но сегодня цены значительно ниже, чем в других магазинах.

**Елена Константиновна:**



— Я многодетная мать, пришла купить продукты. Цены здесь значительно ниже и на подсолнечное масло, и даже на молоко, макароны, кофе.

**Владимир Михайлович:**



— Сегодня очень много людей. Покупки сделал, но не успел все рассмотреть. Столько людей! Ажиотаж спадет, будем каждый день заходить в магазин.

**Супруги Валентина Михайловна и Владимир Михайлович:**



— В «Грошыке» самые низкие цены по Слониму. Если и дальше будут такие цены, то этот магазин переманит всех слонимчан. Вот я купила подсолнечное масло за 1,59 рубля. Где можно найти мандарины за 2,19, макароны — за 79 коп.? Все прекрасно, дай бог, чтобы этот магазин работал, только чтобы цены не повысили. Здесь очень хорошие цены, просто нет слов.

**Софья Васильевна:**



Мне магазин понравился, очень хороший, если и дальше будут такие цены, то, конечно, будет хорошо.

# СЛОНИМСКИЕ ВОЛОНТЕРЫ СПАСЛИ ЕЩЕ ОДНУ ЖИЗНЬ



Потерянная собачка

**Более 10 суток по Слониму бегала маленькая собачка с ошейником.**

В первые дни её скитаний по городу люди звонили волонтёру Оксане Савчук, говорили, что собака ухоженная, упитанная и пахнет шампунем. Было понятно, что животное потерялось. Девочка, в холке до колена, очень ласковая, и давалась в руки. На улице у нее не было ни единого шанса выжить, на нее уже вызывали отстрел.

27 февраля собаку отыскали в городе и оставили на передержку у Оксаны Савчук. После чего собачушке практически сразу нашли новых хозяев.

Однако волонтеры все же надеются отыскать прежних хозяев этой собачки. Возможно, кто-то ищет ее и скучает.

Если вы узнали на фото свою потеряшку, свяжитесь с Оксаной Савчук по телефону 8-029-997-55-25.

# ЗДОРОВЬЕ


Ілюстрацыйнае фота

## Як пазбегнуць прастуды: КАРЫСНЫЯ ПАРАДЫ ДОКТАРА

**Лепшая абарона — прафілактыка**

Трэба загартоўваць арганізм загадзя. Адзін з самых эфектыўных метадаў — кантрасныя водныя працэдуры. Напрыклад, нажныя ванны. Іх неабходна рабіць штодзень. Вазьміце два тазікі: з гарачай вадой (тэмпература каля 40°С) і халоднай (не вышэйшай за 30°С). Апусціце ногі на некалькі секунд у гарачую ваду, потым — у халодную. Паўтарыце працэдуру 3-4 разы. Раз на тыдзень прымайце агульную цёплую ванну, дабаўляйце ў яе марскую соль, прыемныя вам араматызатары, настоі траў.

Варта прадухіляць прамое заражэнне — абмяжоўваць кантакты з хворымі на прастуду. Калі ж вы самі прастуджаны, закрывайце рот сурвэткай пры чханні і кашлі, мыйце рэгулярна рукі, часцей праветрывайце памяшканне.

Лепш устрымацца ад курэння, калі ваша слізістая абалонка запалёная. Курэнне зацягвае працэс папраўкі. З гэтай прычыны курыльшчыкі часцей і даўжэй хварэюць на прастуду.

Не дапамагае і распаўсюджаны народны рэцэпт — гарэлка з перцам. Пара алкаголю не забівае вірусы, а яшчэ больш раздражняе слізістую, што прыводзіць да павелічэння ацёку.

Старыя добрыя парады не перааханоджвацца, берагчы сябе, адзявацца па надвор'і актуальныя і цяпер. Многія добраахвотна падрываюць ахоўныя сілы арганізма, прастуджанымі пераносячы «на нагах» перагрузкі на рабоце, зарабляючы ўскладненні і далейшыя праблемы са здароўем. Хаця ў гэты перыяд проста неабходна адлежацца і даць магчымасць арганізму адпачыць, раіць урач-гігіеніст Мінскага абласнога цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Валянціна Цярэшка.

**hatka.ng-press.by**





# Весна и красота

**Женская аудитория задаёт массу очень важных вопросов о занятиях фитнесом и питании.**

Специалисты утверждают: никакого исключительно женского фитнеса не существует! Существует фитнес эффективный и фитнес не эффективный. Все основные закономерности тренировок абсолютно одинаковы для мужчин и женщин. Единственным значимым отличием мужчин и женщин в занятиях фитнесом является уровень тестостерона в организме. У женщин его примерно в 10 раз меньше. Поэтому женщины в целом менее мускулисты, обладают меньшей силой, больше склонны к набору веса.

Медики утверждают, что целлюлит — это разновидность нормы.

Косметологи говорят, что от целлюлита могут избавить только их дорогие процедуры в SPA-салонах.

Тренеры кричат, что от целлюлита избавит их чудо-программа на тренажёрах.

Недостаточно просто сесть на диету!

Недостаточно просто заниматься бегом!

Для избавления от лишнего веса женщине также недостаточно просто поднимать штангу или гантели!

Правильным будет грамотное сочетание всех этих методов!



Разумное питание, специальные косметические процедуры и грамотные физические упражнения (комплекс упражнений) — вот то, что реально сделает любую женщину Королевой!

Милые женщины, в любое время года следите за собой!

И тогда вам не придется следить за своим мужчиной!

**Жанна БУЛАВЧИК**

КРАЯЗНАЎСТВА

# Цікавы юбілей



ФОТА HTTPS://VALEVKA.SCHOOLS.BY

Выпускнікі 1963 года

ПАЧАТАК НА С. 2 «АДДУШЫНЫ»

Геаграфічна Валеўка размешчана на маляўнічых узгорках Навагрудскага ўзвышша, звязанага з імёнамі Адама Міцкевіча і Яна Чачота, Вінцэнта Каратынскага і Яна Булгака, побач з легендарным возерам Свіцязь і старажытным Навагрудкам. Дзякуючы цікавай і трохі нестандартнай працы мясцовай школы, установа набывае вядомасць не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі.

Парог школы не раз пераступалі вядомыя людзі, у ліку якіх былі пісьменнікі. Тут бывалі Якуб Колас і Пятрусь Броўка, Максім Танк і Пятро Глебка, Янка Брыль і Уладзімір Караткевіч, Уладзімір Калеснік і Фёдар Янкоўскі, украінец Максім Рыльскі і балгарын Георгій Вылчаў ды дзясяткі іншых.

Праца школы адзначаецца штогод рознымі кіруючымі ўстановамі адукацыі ад рана да Міністэрства асветы БССР, савецкімі і партыйнымі органамі. Школьны краязнаўчы музей і парк-дэндрарый становяцца лаўрэатамі ВДНГ СССР. Тром настаўнікам — Петрыкевічу М.Ф., Ускову В.Ф., Явосце Г.А. — прысвойваецца званне «Заслужаны настаўнік БССР». Выдатнікамі народнай асветы становяцца восем чалавек, дзясяткі ўзнагароджваюцца граматамі самых высокіх устаноў. Прозвішча настаўніка беларускай мовы і літаратуры, аўтара некалькіх кніжак па школьным краязнаўстве і шматлікіх артыкулаў Урбановіча У.А. занесена ў раённую Кнігу Славы.

### Сучасная школа

Сёння вучняў у Валеўскай школе крыху больш за сотню, але слаўныя традыцыі прадаўжаюцца. Амаль кожны год вучні гэтай школы становяцца пераможцамі ці прызёрамі раённых прадметных алімпіяд. У гэтым годзе, напрыклад, Юлія Лісіца заняла другое месца на абласной алімпіядзе па беларускай мове і літаратуры і цяпер рыхтуецца абараняць гонар Гродзенскай вобласці на рэспубліканскай алімпіядзе. Школьнаму музею прысвоена званне «народны», і ён прадаўжае папаўняцца экспанатамі. У парку-дэндрарыі расце каля 200 відаў дрэў і кустоў, але відавы склад большае.

Сёння педкалектыў школы налічвае 27 настаўнікаў, 10 з якіх — былыя выпускнікі, два — выдатнікі народнай асветы, у кожнага педагога дзясяткі розных грамат, пахвальных лістоў, падзяк.

Школа вельмі грунтоўна рыхтавалася да свайго юбілею. На святочную цырымонію былі запрошаны выпускнікі розных гадоў. Сярод іх выкладчыкі ВНУ, кіраўнікі розных устаноў, настаўнікі, журналісты, ваенныя, медыкі. Адгукнуліся на запрашэнне старшыня Навагрудскага РВК Сяргей Федчанка і яго намесніца Святлана Каралько, загадчыца ўпраўлення адукацыі і старшыня РК прафсаюза настаўнікаў, кіраўнікі мясцовага калгаса і санаторыя «Свіцязь», старшыня Валеўскага сельсавета і ляснічы Свіцязянскага ляснічтва (два апошнія — былыя выпускнікі школы-юбіляра).

### Свята

Святочная імпрэза ў актавай зале навучальнай установы пачалася гімнам Валеўскай школы, які спявалі стоячы амаль усе прысутныя. Віншаванні гасцей чаргаваліся з нумарамі мастацкай самадзейнасці. Вучні і настаўнікі прыгожа спявалі, танчылі, чыталі вершы. Хвілінай маўчання ўспомнілі ўсіх настаўнікаў, што адышлі ў вечнасць.

Школа ў гонар свайго юбілею атрымала дзясяткі падарункаў (тэлевізар, ноўтбук, мотакасу, спортінвентар, камп`ютар, кнігі і да т. п.). Многія настаўнікі былі ўзнагароджаны граматамі раённых улад, раённага і абласнога ўпраўлення адукацыі.

Усё мерапрыемства вялося на прыгожай роднай мове, доўжылася больш за дзве гадзіны, але праляцела імгненна. На гэтыя дзве гадзіны я нібыта трапіў у сваё дзяцінства, памяць вяртала то адно, то другое даўно забытае імгненне з цікавага і непаўторнага школьнага жыцця. Дамоў варочаўся задаволены, з пачуццём гонару, што мне калісьці давялося вучыцца ў такой цікавай, трошкі нестандартнай вясковай школе, што і мой бацька аддаў лепшыя гады жыцця гэтай школе і, працуючы завучам, здолеў натхніць калектыў настаўнікаў і вучняў на стварэнне і музея, і парка-дэндрарыя, і іншых добрых спраў, што менавіта за гэтую працу ў Валеўскай школе ён атрымаў ганаровае званне «Заслужаны настаўнік БССР» і што яго не забыліся і ўспамінаюць добрым словам. Прыгадалася, што калісьці ў Валеўскай школе пачынаў сваю працоўную дзейнасць настаўнік Крыжаноўскі І. В., першы сакратар Дзятлаўскага РК КПБ у 1955-73 гадах, які запрасіў майго бацьку для стварэння музея ў нашым горадзе Дзятлава.

### Выпускнікі

Лёс параскідаў выхаванцаў Валеўскай школы па ўсёй Беларусі і далёка за яе межамі. Напрыклад, у Вільнюсе шмат гадоў жыла і была актыўнай сяброўкай ТБК (Таварыства беларускай культуры) Святлана Красоцкая. У Слоніме доўга працаваў Іван Шэга, не толькі высокакваліфікаваны доктар-траўматолаг, але і вядомы грамадскі дзеяч, сябра кіруючых органаў БНФ, вялікі змагар і прапагандыст беларускай мовы. Пад Воршай, у Барані, жыве Юрась Нагорны, былы настаўнік, дырэктар мясцовай школы, сябра рады ТБМ, адзін з ініцыятараў шматлікіх цікавых мерапрыемстваў па вяртанні народу гістарычнай памяці, па вяртанні ў паўсядзённы ўжытак роднай мовы, па вяртанні славы беларускім ваярам, якія атрымалі пад кіраўніцтвам Канстанціна Астрожскага на Крапівенскім полі перамогу над маскоўскім захопніцкім войскам, якія пераўзыходзілі ў некалькі разоў іх па сіле.

У Гродне і Шчучыне працаваў доктар па адукацыі Васіль Бязмен, актыўны сябра грамадска-культурнага клуба «Паходня», шчыры прыхільнік і прапагандыст усіх беларускіх спраў.

Аўтар гэтых радкоў, сябра ЦР БСДГ і старшыня Дзятлаўскай раённай філіі ТБМ, звыш 50 гадоў жыве ў Дзятлаве. Спадзяюся, што выпускнікі Валеўскай школы, прачытаўшы гэты артыкул, успомняць яе, сваіх аднакласнікаў і настаўнікаў добрым словам, парадуюцца за 150-гадовую юбілярку і пажадаюць ёй і надалей падтрымліваць і памнажаць добрыя традыцыі.

**Валерый ПЕТРЫКЕВІЧ,**
**выпускнік 1963 года**
**Валеўскай СШ**
**Навагрудскага раёна**

## Афиша

**Слонимский драмтеатр**

**7 марта, суббота**
Спектакль для детей «Красная шапочка». Начало в 12.00. Цена 4 руб.

**Слонимский центр культуры и отдыха**

**6 марта, пятница**
Праздничный концерт «Ты — моя мелодия...», начало в 15.00

**7 марта, суббота**
Концерт «Воплі Відоплясова», начало в 18.00

**Кинозал**

**4 марта, среда**
12.00, 14.00, 18.00 «Удивительное путешествие доктора Дулиттла» 3D (12+, семейный, 1.41)
16.00 «Калашников» 2D (Россия, 12+, история, 1.50)
20.00 «Лёд 2» 2D (Россия, 6+, спорт, 2.10)

**5 марта, четверг**
11.00, 13.00 «Удивительное путешествие доктора Дулиттла» 3D (12+, семейный, 1.41)
19.00 «Вперёд» 3D (США, 6+, мультфильм, 1.42) 5 руб.
21.00 «Остров фантазий» 2D (США, 16+, ужасы, 1.49)

**6 марта, пятница**
18.00 «Вперёд» 3D (США, 6+, мультфильм, 1.42)
19.45 «Удивительное путешествие доктора Дулиттла» 3D (12+, семейный, 1.41)
21.30 «Остров фантазий» 2D (США, 16+, ужасы, 1.49)

**7 марта, суббота**
12.00 «Удивительное путешествие доктора Дулиттла» 3D (12+, семейный, 1.41)
14.00 «Вперёд» 3D (США, 6+, мультфильм, 1.42)
21.00 «Остров фантазий» 2D (США, 16+, ужасы, 1.49)

**8 марта, воскресенье**
12.00, 15.30 «Удивительное путешествие доктора Дулиттла» 3D (12+, семейный, 1.41)
13.45, 17.15 «Вперёд» 3D (США, 6+, мультфильм, 1.42)
19.00 «Лёд 2» 2D (Россия, 6+, спорт, 2.10)
21.15 «Остров фантазий» 2D (США, 16+, ужасы, 1.49)

# Лакіраваныя туфелькі


МАЛЮНАК ЯЎГЕНА ІВАНОВА

Мінуў тыдзень, як Тоня Жураўская прыехала лячыцца ад алкагалізму ў псіханеўралагічную бальніцу. У першыя ночы яна спала і не спала: то змружыць вочы і нібыта забудзецца, то прахопліваецца, прыслухоўваецца да падманлівай цішыні. У палаце не выключалі святла, дзвярэй у праёмах не было. Час ад часу па калідоры паволі і амаль нячутна, нібы здані, хадзілі псіхічна хворыя. Баялася прасіць у медсястры снатворную таблетку, думала, што як засне, то і не прачнецца.

На другі тыдзень яе разам з іншымі алкагалічкамі паслалі на работу ў карданажны цэх, дзе на дротасшывальных машынах сшывалі каробкі для абутку. Майстар падвёў да адной з такіх, паказаў, як працаваць. Нескладана, але патрэбна пільнасць.

Не паспела сшыць і некалькі каробак, як у цэх зайшла медсястра Наташа з іхняга аддзялення. Убачыўшы Тоню, падышла бліжэй:

— Жураўская, табе з сённяшняга дня назначана яшчэ адна працэдура, я забылася папярэдзіць. Так што пайшлі...

На дварэ быў моцны мароз, ён падганяў. Наперадзе жвава рыпела снегам маладая медсястра, а за ёй плялася Тоня.

Яна ж, напэўна, мая равесніца, думала Тоня. Так прыгожа абута і апранута. На спрытных ножках модныя боцікі з кароткімі халяўкамі. На белы халат накінута зімовае паліто з футравым каўняром... А я ў чым? Боты-прашчайкі сорак апошняга размеру, на галаве бэзавая плянёнка, апранута ў вялізную фуфайку. Для высокага чалавека было б як куртка, а для мяне як паліто.

Вось палячуся, не буду піць і куплю сабе такія ж боцікі і такое ж паліто... Зараблю і куплю! Гэта на наступную зіму, а цяпер буду адкладваць на чорныя лакіраваныя туфелькі, калі іх яшчэ ніхто не купіў у нашым райцэнтраўскім універмагу.

Гэтыя туфелькі Тоня аблюбавала даўно. Гладзіла бліскучы лак, круціла ў руках. Нават аднойчы памерала. Акурат яе размер. Так бы мовіць, блакітная мара... Але не да туфлікаў, калі грошы патрэбны былі на віно. Без яго нельга было жыць... І з ім нельга...

Яе ніхто не павіншаваў са святам 8 Сакавіка. Што заслужыла... Радавала толькі тое, што адразу пасля свята выпішуць. Не проста радавала, гэта было сапраўднае шчасце.

Адразу з аўтастанцыі пайшла ва ўнівермаг паглядзець, ці яшчэ стаяць лакіраваныя туфелькі. Яны былі! І размер той самы...

«Як жа іх тут захаваць, пакуль у мяне будуць грошы? — думала з хваляваннем. — Але не хутка будуць... Дзевяноста тры рублі доўгу, напазычаныя па ўсім горадку. Па тры, па пяць, па дзесяць... І ўсё на віно...»

— Казіміраўна, а ці можна гэтыя туфелькі адкласці? — спытала ў знаёмай пажылой прадаўшчыцы.

— Надоўга?

— На два месяцы...

— На два месяцы? Ладна, вазьму грэх на душу, бо яны ўжо паўгода тут стаяць і ніхто не бярэ. Размер малы. А чаму на такі доўгі час адкладваеш?

— Не змагу раней...

— Добра, на два месяцы, але каб не больш.

Назаўтра Тоня пайшла на работу ў будаўнічую арганізацыю, з якой і паехала на лячэнне. Яе не звольнілі, ну як жа, па важнай прычыне адсутнічала. Лячылася ад алкагалізму і ад ганьбы...

Работа была цяжкая: загружаць і выгружаць шыфер, сырыя дошкі-саракоўкі, сеяць пясок на бетонным вузле і закідаць яго ў бетонамяшалку. Начамі прачыналася ад таго, што вельмі балелі рукі, не ведала, як іх паласці, каб зноў заснуць. А на душы было так светла, такое шчасце напаўняла яе: «Я цвярозая! Дзякуй табе, Божа...»

Атрымала, так бы мовіць, першую зарплату, прыкінула: хопіць, каб аддаць частку доўгу, і крышку застанецца на пражыццё. А з другой зарплаты аддам астатні і куплю лакіраваныя туфелькі.

Нарэшце настаў дзень, калі яна з патрэбнай сумай грошай пайшла ва ўнівермаг:

— Казіміраўна, я прыйшла па абноўку!

— Добра. Чакае цябе твая абноўка, — кабета пайшла ў склад і прынесла каробку з лакіраванымі туфелькамі. — Ідзі на касу плаці. Пачакай жа... Ну як ты, Тонечка, спраўляешся?

Мудрая добрая жанчына не сказала з чым. Горадок маленькі, тут не было сакрэтаў. І Тоніна тайнае захапленне, якое даўно стала яўным, таксама не сакрэт.

— Дзякуй, Казіміраўна, спраўляюся. І гэта такое шчасце!

Яна прыйшла дадому, адкрыла каробку, дастала туфелькі. Прытуліла да твару, і з вачэй пакаціліся слёзы.

Доўга сядзела і плакала, змываючы светлымі слязамі алкагольную атруту, якая ёй была паслана за невядома якія грахі. Гэта растлумачыць нельга, бо алкагалізм сам выбірае сабе ахвяру. І выблытацца з яго драпежных кіпцюроў вельмі цяжка...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

Главный редактор Николай Николаевич Кононович

Учредитель **Виктор Владимирович ВОЛОДАЩУК**

ГАЗЕТА ВЫХОДИТ НА РУССКОМ И БЕЛОРУССКОМ ЯЗЫКАХ

**Телефоны редакции:**
Velcom: 8-029-133-04-21
**факс:** 8 (01562) 2-90-00
звонить с 9.00 до **18.00**
**Skype — gazslon**

Для корреспонденции: 231799, г. Слоним, ул. Красноармейская, д.41
Юридический адрес: г. Слоним, ул. Красноармейская, 41

Регистрационное удостоверение №65 от 05.03.2009 года выдано Министерством информации Республики Беларусь. Свидетельство о госрегистрации УП "Газета Слонимская" ЮКЛ № 001845, выданное Гродненским областным исполнительным комитетом от 03.04.2003 г.

Авторы опубликованных материалов отвечают лично за подбор и достоверность фактов, их точка зрения может не совпадать с мнением редакции. Редакция не ведет переписки с читателями и оставляет за собой право не рецензировать и не возвращать рукописи. Редакция не несёт ответственности за содержание рекламы.

**Свободная цена**

Тираж номера 3010 экз.

Время подписания к печати по графику 3 марта 2020 года 17:00

РЕКЛАМНАЯ СЛУЖБА
8(044) 715-90-03
8(044) 762-48-39; 8(044) 715-90-03
ул. Красноармейская, 41
**e-mail:** gs@gs.by, gazslon@gmail.com

Объем — два условных печатных листа.
Газета отпечатана в ГОУПП "Гродненская типография", Гродно, ул. Полиграфистов, 4. индекс 230025
ЛП №02330/39 от 27.03.2014
Заказ № 1120

Распространяется с газетой "Газета Слонимская" по подписке и в розницу по Республике Беларусь

ISSN 1991-3362




